## Віншуем з 76-мі ўгодкамі абвяшчэньня БНР!


# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ—ВІЛЬНЯ—БЕЛАСТОК ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

№8(64) 25 сакавіка 1994 г. Кошт 150 руб.


## З ХРОНІКІ ТЫХ ДЗЁН

Сталася тое, чаго ўсім сэрцам сваім і ўсёй душою жадае здаўна сьвядомы сваіх правоў і сваіх патрэб беларускі народ: у Менску, які за час вайны абярнуўся ў галоўны цэнтар беларускага нацыянальнага руху, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі ў ноч з 24 на 25 сакавіка апавясьціла дзяржаўную незалежнасьць Бацькаўшчыны. Рада БНР, выбраная Усебеларускім зьездам 30 сьнежня 1917 года, разагнаньм бальшавікамі, і дапоўненая членамі Беларускай Вайсковай Рады, земстваў, местаў і нацыянальных меншасьцяў,- гэта першае правамочнае краёвае прадстаўніцтва Беларусі, гэта - "прадпарлямант" яе, ядыная ўстанова, якая можа прамаўляць ад імя ўсяго краю Беларускага... Цяпер Беларусь разарвала путы, каторымі была зьвязана звыш 100 гадоў з чужой дзяржавай, і мае права сама й толькі сама гаварыць за сябе. На плянарным паседжаньні Рады,адкрытым старшынём яе І.Серадом а 5 гадзіне паабедзе 24 сакавіка, фракцыя Беларускай Сацыялістычнай Грамады прапанавала прыступіць да разгляду праэкту незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Хаця процi гэтай прапановы была частка радных, якія лічылі яе несвоечасовай, аднак пры галасаваньні за неадкладны разгляд прапановы выказалася пераважная большасьць членаў Рады. Тады прыступілі да нарады аб справе незалежнасьці, якая трывала да 5 гадзін раніцы 25 сакавіка. Пры наэлектрызаванай атмасфэры ў залі Рада вялікай пераваґай галасоў ухваліла гэткую пастанову:"Рада Беларускай Народнай Рэспублікі абвяшчае Рэспубліку незалежнай і выдае стасоўную ўстаўную грамату". Мястовая група, складзеная з прадстаўнікоў небеларускае нацыянальнасьці, падала голас процi пастановы, але засталася ў Радзе. Земцы ў колькасьці 9 асоб заявілі аб сваім выхадзе.Ад падачы голасу ўстрымаліся прадстаўнікі злучанай жыдоўскай сацыялістычнай групы і "Поалей Цiон". Прыняцьце пастановы Рады было спаткана шумным і гарачым прывітаньнем прысутных у залі. І пры першых праменьнях сонца - гэтага вечнага сымвала жыцьця й свабоды - раздаўся моцны дружны кліч:"Няхай жыве незалежная вольная Беларусь!" На гэтым быў зроблены перапынак да 12 гадзіны ў дзень 25 сакавіка. Пасьля адкрыцьця далейшай нарады быў прыняты тэкст устаўной граматы.

**(Паводле газэты "Гоман").**



О, Божа ўсяўладны, о, Божа магутны,
пазбаў Беларусь ад напасьці;
дай волю краіне і нам шматпакутным
дай сілу, надзею і шчасьце!

Цябе, Божа, молім у сьпеве сугучным:
зьяві сваю добрую волю!
О, Божа ўсяўладны, о, Божа магутны,
пашлі нам шчасьлівую долю!

Мы - дзеці Твае, мы з пакораю просім:
пазбаў нас ад цяжкае мукі!
Мы лёс Беларусі і наш лёс прыносім
Табе ў справядлівыя рукі.

О, Божа ўсяўладны, о, Божа магутны,
пазбаў Беларусь ад напасьці;
дай волю краіне, і нам шматпакутным
дай сілу, надзею і шчасьце.

**Янка ЗОЛАК**

## АДСЬВЯТКАВАЛІ КАЛЕКТЫВАМ

Днямі ў Гарадзенскай гарадзкой бібліятэцы імя Макаёнка ўпершыню адсьвяткавалі 76-ыя ўгодкі абвяшчэньня БНР.

—Раней мы не адзначалі гэтае сьвята, — кажа дырэктар бібліятэкі Г.Рыбалка. — І не таму, што ня ведалі. Проста была забарона казаць нешта пра падзеі на нашай зямлі напачатку XX стагоддзя. Сёлета мы адсьвяткавалі калектыўна 76-я ўгодкі за шклянкай гарбаты. Успомнілі тых, хто ўжо тады хацеў бачыць Беларусь незалежнай і заможнай.

**Г.У.**

## 3-я Устаўная Грамата Рады Беларускае Народнае Рэспублікі

Год таму назад народы Беларусі разам з народамі Расеі скінулі ярмо расейскага царызму, які найцяжэй прыціснуў быў Беларусь; ня пытаючыся народу, ён кінуў наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады й вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны й незалежны край. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю й вольнаю дзяржавай. Самі народы Беларусі ў васобе Устаноўчага Сойму пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі. На моцы гэтага трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь трактат у Берасьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелячы зямлю яго на часткі. На моцы гэтага ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі мае ўвайсьці ў зносіны з зацікаўленымі старанамі, прапануючы ім перагледзець тую часьціну Берасьцейскага трактату, якая датычыць Беларусі, і падпісаць мірную ўмову з усімі ваяваўшымі дзяржавамі. Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве й мае лічбенную пераваґу беларускі народ, а ласьне: Магілёўшчыну, беларускія часьці Меншчыны, Гарадзеншчыны (з Горадняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны,Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны й сумежных часьцей суседніх губэрняў, заселеных беларусамі. Беларуская Народная Рэспубліка зацьвярджае ўсе тыя правы й вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаныя Устаўной Граматай ад 9 сакавіка 1918 року. Абвяшчаючы аб незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, Рада яе пакладае свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу ў поўнай меры зьдзейсьніць яго палітычна-дзяржаўныя ідэалы.

**Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.**

## «НЕ БЫЦЬ ЖАБРАЦТВУ НА НАШАЙ ЗЯМЛІ»

Мітынг пад такім лёзунгам адбыўся ў Горадні 22 сакавіка. Ён быў зарганізаваны гарадзенскай гарадзкой радай БНФ і грамадзка-палітычным аб'яднаньнем імя Каліноўскага.

Сабралася прыкладна каля тысячы чалавек. Арганізатары акцыі зрабілі аналіз сучаснага эканамічнага і палітычнага становішча на Беларусі. Былі зроблены пераканаўчыя высновы аб нздольнасьці ўраду Кебіча і пракамуністычнага Вярхоўнага Савету вывесьці грамадзтва з крызісу, які стаў магчымым, у асноўным, дзякуючы іхняй непрафэсійнай дзейнасьці на працягу апошніх трох гадоў. Увага прысутных ыла прыцягнута таксама да маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбараў і выбараў новы Вярхоўны Савет. На жаль, шмат якія з выступаючых зачытвалі свае прамовы з паперак.

Больш цікавай і жывой атрымалася другая частка мітынгу, калі да мікрафону пачалі падыходзіць усе жадаючыя.

—Дзяржавай не павінны кіраваць ні токар, ні кухарка,—гаварыў адзін рабочы, які прапрацаваў каля станка ўсё сваё жыцьцё і амаль 20 гадоў быў у кампартыі.—Будучыня толькі за прафэсійна працуючымі сумленнымі палітыкамі, якія выяўляюць інтарэсы народа. Вось чаму я буду падтрымліваць кандыдатуру на прэзыдэнта краіны толькі ад БНФ.

## Хоць рэктар ГДУ і адмовіў у арэньдзе памяшканьня, вабласная канфэрэнцыя БНФ адбылася

Днямі ў памяшканьні турцэнтру КАФ "Бацькаўшчына" адбылася вабласная канфэрэнцыя БНФ. На канфэрэнцыю зьехалася 45 дэлегатаў амаль з усіх раёнаў Гарадзеншчыны.

Са справаздачным дакладам выступіў старшыня вабласной Рады БНФ спадар Мікола Баўсюк. Ён распавёў прысутным пра сучасны палітычны момант так:"Прарасейскія сілы на Беларусі каб захаваць уладу, імкнуцца інкарпаваць нашу Бацькаўшчыну ў склад суседняй дзяржавы. Калі ж гэта ім ня ўдасца зьдзейсьніць, то яны для захаваньня першай не адмовяцца скарыстаць зброю".

Далей слова трымаў спадар К.Жынь, які зазначыў, што для правядзеньня канфэрэнцыі заранёў была пададзена заява на імя рэктара ГДУ з просьбай дазволіць правесьці вабласны сход на факультэце беларускай культуры й гісторыі унівэрсытэта. Але ў просьбе спадар Ківач адмовіў.

У "розным" узяў слова пэнсіянэр В.Жук. Ён падрабязна пазнаёміў дэлегатаў з праграмай стварэньня ў Менску рэспубліканскай альтэрнатыўнай вэтэранскай арганізацыі, на якой спадар Жук быў дэлегатам ад Горадні. Прысутныя ўхвалілі захады Жука па стварэньні на Гарадзеншчыне такой жа арганізацыі.

У працы вабласной канфэрэнцыі БНФ ўзяў удзел каардынатар Сойму БНФ спадар В.Січук.

**Г.У.**





# Для беларусаў - гэта самае вялікае сьвята

76-ыя ўгодкі абвяшчэньня БНР - гэта вялікае сьвята для ўсіх сумленных беларусаў. Да рэдакцыі напярэдадні 76-ых ўгодкаў наведваюцца самыя розныя людзі - камэрсанты, лекары, служачыя, рабочыя, вэтэраны, каб выказаць свае пачуцьці да слаўнай гадавіны беларускае дзяржавы.

**Вікенцій Жук, пэнсіянэр**:"Напярэдадні сьвяткаваньня ўгодкаў хачу нагадаць, што яны адбудуцца ня ў просты час. Пэўныя сілы яскрава паказалі ўсім, што ім сувэрэнная Беларусь непатрэбная . Нам жа, тым, хто сэрцам перажывае за Бацькаўшчыну, чуць такое балюча. Колькі можна зьневажаць краіну, народ, мову, культуру, колькі можна абражаць тых, каму хочацца адрадзіць свае вытокі. Асабіста я не прымаю на лік патрыётаў тэрмін "нацыяналіст". Чаму гэтым абразьлівым зваротам абзываюць нас? Чаму людзей, якія змагаюцца за Радзіму, у іншых краінах называюць гэроямі, а не нацыяналістамі. Чаму ў самой Расеі тых самых баркашоўцаў, ампілаўцаў, макашоўцаў не ганьбяць за тое, што яны мрояць зрабіць Расею адзінай і незалежнай? На ўсе гэтыя пытаньні адказаць проста. Вельмі шмат на нашай зямлі чужыхб наежжых людзей, якім усё беларускае, што костка ў горле. Колькі ж можна цярпець іх выбрыкі, даваць ім аднолькавыя правы, называць грамадзянамі Беларусі. Я не заклікаю да варажнечы. Але я патрабую, каб тыя, хто жыве на нашай зямлі, карыстаецца здабыткамі нашага народа, не абражалі беларушчыну, не перашкаджалі нам сьвяткаваць нашы сьвяты й адраджаць беларускую дзяржаву."

**Юры Пархові́ч, камэрсант**:" 76-ыя ўгодкі - вялікае сьвята й гэта добра, што мы яго сьвяткуем. Такія сьвяты аб'ядноўваюць беларусаў, задзіночаць нацыю. Чым больш будзе такіх сьвятаў, тым лепей будзе нам, беларусам, пачуваць сябе народам. Ад сябе, як камэрсанта, дадам, што большасьць людзей, якія займаюцца малым ці вялікім бізнэсам, прыязна ставяцца да ўсяго беларускага. Мы таксама хочам, каб у сьвеце ўспрымалі беларускіх камэрсантаў, як прадстаўнікоў цывілізаванай, дэмакратычнай дзяржавы. Мы за тое, каб беларускі народ быў гаспадаром на сваёй зямлі, і каб добрыя мары суайчыньнікаў спраўдзіліся. Бізнэсмэны Беларусі не пашкадуюць ні сродкаў, ні якіх, кольвечы, іншых высілкаў."

**А.Ваўковіч, мэдык:**" Я веру толькі ў сваю дзяржаву, у яе сьвяты, бо змалку гадаваўся ў сям'і, дзе да свайго, роднага, было шмат павагі. Упэўнены, што сьвяты, зьвязаныя з дзяржаўнасьцю нашай Бацькаўшчыны, з кожным годам будуць здабываць усё больш і больш прыхільнікаў, набіраць аўтарытэт. Асабіста я - веру ў будучыню Беларусі, і, як магу, спрыяю яе стаўленьню. Мне 20 год і за такімі як я - юудучыня. Якія б вэтэранскія сілы сьвядома не разбуралі тое, што мы імкнемся стварыць зараз, у іх няма пэрспэктывы. Наша пакаленьне адродзіць Беларусь і яе традыцыі.

**Запытваў Г.АСТРОУСКІ.**

# ...Але не для ўсіх

25 сакавіка... Для некаторых гэты дзень зьяўляецца сапраўдным сьвятам, нягледзячы на тое, што яго значнасьць не прызнаная на дзяржаўным узроўні. "А якія асацыяцыі ўзьнікаюць у Вас пры ўспаміне пра гэтую дату?"- з такім пытаньнем наш карэспандэнт зьвярнуўся напярэдадні да гарадзенцаў, якіх сустрэў на вуліцы, каб высьветліць, што яны ведаюць пра гэты дзень. Было апытана 19 чалавек. Большасьць рэспандэнтаў, акрамя слова "ніякіх", нічога не змагла адказаць. Толькі пяцёра далі больш зьмястоўныя адказы.

**А.Козін, пэньсіянэр:**"Нядаўна прачытаў у газэце, што ў гэты дзень БНФ зьбірае людзей на плошчу ў Менску, каб штосьці сьвяткаваць, а што - сказаць не магу".

**А.Сенкевіч, "проста юнак"**: "Здаецца, у гэты дзень была створана БССР".

**П.Дзяжко, адстаўны маёр:**"У гэты дзень, не скажу дакладна, у якім годзе,ці то ў 19-ым, ці то ў 20, нацыяналісты зрабілі спробу , выступаючы ад імя ўсяго беларускага народу, з дапамогай немцаў стварыць марыянэтачную дзяржаву".

**В.Фаміна, АТ "Гроднаабутак"**:"Я ведаю, што гэтая дата знамянальная тым, што была створана Беларуская Народная Рэспубліка".

**І.Стопа,студэнт:**"У гэты дзень я іду на дзень нараджэньня да сябра".

Як бачна, толькі адзін чалавек здолеў сказаць дакладна, чым знамянальнае 25 сакавіка для Беларусі. Астатнія ж былі зьдзіўлены, пачуўшы, што гэта гістарычная дата.

Хаця ў сьвяточны дзень і ня прынята гаварыць пра сумнае, і тое, што было апытана ня так ужо і шмат людзей, здавалася б, не дазваляе рабіць ґрунтоўных высноў, тым ня менш даводзіцца канстатаваць: дрэнна вы, спадары беларусы, ведаеце гісторыю краіны, у якой жывяце.

**Д.АЛЕГАУ.**




Малюнак Л.ЗДАНЕВІЧА.

*З успамінаў*

# 25 САКАВІКА БЕЛАРУСЫ АДЗНАЧАЛІ НАВАТ У СТАЛІНСКІХ ЛЯГЕРАХ

Сёньня, нягледзячы на ўсе цяжкасьці нашага жыцьця, мы ведаем і сьвяткуем (тыя, хто хоча ведаць і сьвядома адзначае адну з самых яскравых датаў у гісторыі беларускага народа) 25 сакавіка. Аднак, магчыма, ня ўсе сярод нас здагадваюцца аб тым, што гэты дзень адзначаўся штогод пры любой уладзе, якая толькі не панавала ў нас на Беларусі.

Прапаноўваем вашай увазе ўспаміны жыхара Горадні Уладзіміра Адамавіча Кісяля, зараз пэнсіянэра. У яго няпростым чалавечым лёсе дзень 25 сакавіка быў заўсёды днём сьвяточным.

- На жаль, я позна даведаўся, што гэта за дзень, што ён азначае для беларускага народа.

У 1939-40 г.г. я вучыўся ў беларускай школе ў Клецку. Мне было ўжо 16 гадоў. Тады яшчэ, як казалі ў нас людзі, за добрымі Саветамі (добрымі іх называлі таму, што яны хутка адыйшлі) мне часта трапляўся беларуска-польскі каляндар, які выдаваўся ў Вільні і ў якім былі такія-сякія зьвесткі аб гісторыі Беларусі. Мяне гэта найбольш цікавіла і я заўсёды стараўся яго чытаць.

Як зараз мне здаецца, на шчасьце, разам са мной вучыўся вельмі сьвядомы беларускі юнак Лявон Шаўчук, бацька якога быў дэлегатам на першым зьезьдзе БНР. Гэта ён, па сакрэту, апавядаў мне аб расказах свайго бацькі, аб тым, як бальшавікі разагналі беларускіх дэпутатаў і каго потым пачалі называць нацдэмамі, а значыць, і ворагамі. Я быў вельмі захоплены яго аповядамі і ўжо падчас вайны змог шмат аб чым прачытаць.

У 1942-43 г.г. мне пашэньціла працягнуць адукацыю ў Нясьвіжскай пэдагагічнай школе, да гэтага я ўжо прачытаў гісторыю Я.Ярашэвіча, Ігнатоўскага й тую, якой нас вучылі пры бальшавіках. На шчасьце, побач за мною працягваў вучыцца той самы Лявон. Гісторыю Беларусі ў пэдагагічнай школе выкладалі па падручніку Ігнатоўскага сьвядомыя беларускія выкладчыкі й для сьвядомых беларускіх студэнтаў.

25 сакавіка было ці не самым жаданым сьвятам. Урачыста прыбіралі залу, кожная група рыхтавала сваю канцэртную праграму і імкнулася, каб яна была найлепшай. Чыталі вершы А.Гаруна, Я.Купалы, М.Багдановіча, Я.Коласа, сьпявалі патрыятычныя беларускія песьні, ставілі пастаноўкі. Абавязкова прысутнічалі нашыя выкладчыкі й нават самі бралі ўдзел. Заўсёды з ахвотай на нашай імпрэзе прысутнічалі прадстаўнікі нямецкай улады і іншыя людзі, якіх мы запрашалі.

На жаль, зараз толькі даводзіцца ўспамінаць, як адзначалася сапраўднае беларускае сьвята.

Пасьля вайны за свае ідэалы я разам з такімі, як сам, трапіў у сталінскі лягэр у Казахстан. На шчасьце, і там сабралася невялічкая колькасьць беларусаў,якія заўсёды трымаліся побач, дапамагалі адзін аднаму й нікога не давалі ў крыўду. Разам мы адбывалі гэтыя складаныя гады, і заўсёды разам не забываліся на нашыя рэлігійныя сьвяты. Аднак і там, напэўна, самым значным для нас было 25 сакавіка. Мы накрывалі самы сьвяточны стол, адкладвалі дзеля гэтага ўсё лепшае, што нам дасылалі родныя, і яшчэ запрашалі гасьцей. Асабліва нас падтрымлівалі ўкраінцы, якія, як і мы, вельмі марылі аб незалежнасьці сваёй краіны.

Нават там, у лягэры, мы сьпявалі "Пагоню", "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", а нашыя ахоўнікі ніколі не маглі ўцяміць, з якой гэта нагоды. У другія лягэры за грошы, праз вадзіцеляў, дасылалі цыдулкі да беларусаў з віншаваньнямі і атрымлівалі тое ж ад іх. І ўнізе на іх заўсёды пісалі:" Ж.Б.", што азначала "Жыве Беларусь!"

У 1961 годзе, вярнуўшыся на Бацькаўшчыну, я сьвяткую 25 сакавіка кожны год і цешуся з таго, што хоць зараз нашы бел-чырвона-белы сьцяг і гэрб Пагоня сталі ўрэшце дзяржаўнымі. Ня ведаю, ці дажыву, але перакананы, што прыйдзе той час, і ўвесь мой народ будзе яго сьвяткаваць так, як я.

Карыстаючыся нагодай, праз "Пагоню" віншую ўсіх беларусаў ва ўсім сьвеце з нашым сьвятам - Днём Незалежнасьці Беларусі.

**Запісаў М.КАРНЕВІЧ.**

## Да 50-ых угодкаў Варшаўскага паўстаньня

1 жніўня 1994 года грамадзяне Польшчы адзначаць 50-е ўгодкі Варшаўскага Паўстаньня 1944 года. Плануецца, што ў урачыстасьцях возьме ўдзел прэзыдэнт Польшчы - пан Лех Валэнса.

З гэтай нагоды Грамадзкае аб'яднаньне "Wspulnota Polska" выступіла з прапановай запрасіць да ўдзелу ў сьвяткаваньні 50-ых угодкаў Варшаўскага Паўстаньня знакамітых палякаў, якія жывуць у блізкім і далёкім замежжы.

*ДЭПУТАТЫ ЖАРТУЮЦЬ*

## Вярхоўны Савет даў трэшчыну

Выступаючы 15 лютага падчас страйку на мітынгу ля Вярхоўнага Савету намесьнік старшыні Менскага гарвыканкама Уладзімір Гурыновіч сказаў:

- У 1991 годзе я гаварыў, што камуністы ня могуць замяніць на будынку ЦК КПБ парваны чырвоны сьцяг. Прайшоў час - і распалася кампартыя. Цяпер жа глядзіце: Вярхоўны Савет даў трэшчыну.

Людзі адвярнуліся й убачылі на будынку Вярхоўнага Савету трэшчыну. Відаць, гэтаму парлямэнту засталося жыць нядоўга.

## Здаецца—няма, але нібы ёсьць

На сэсіі падчас разгляду пытаньня аб адстаўцы Ягорава й Шыркоўскага дэпутаты ад апазыцыі БНФ у тактычных мэтах не зарэгістраваліся.

- Дык чаго яны галасуюць? - жартам запытаў Уладзімір Гаркун. - Іх жа няма ў зале?

- Як гэта няма ў зале? - адазваўся Яўген Цумараў. - Калі я табе па шыі дам, дык ці буду я ў зале?

- Я ж магу й здачы даць? - адказаў Гаркун.

- А як ты мне дасі? - запытаў Цумараў. - Мяне ж няма ў зале.

# РАДА БНР У ГОРАДНІ

**У далёкім ужо 1918 годзе ідэя беларускай дзяржаўнасьці атрымала перамогу. Пасьля абвяшчэньня 25 сакавіка незалежнасьці Беларусі пачаўся пакутлівы, доўгі шлях да волі, па якому й нам яшчэ ісьці і ісьці. У тыя часіны ж беларусы толькі-толькі пачыналі крочыць па гэтаму шляху, зацінутыя з усіх бакоў варожымі сіламі, якія імкнуліся задушыць маладую беларускую дзяржаву.**

**Асабліва складанае становішча склалася ў другой палове 1918 года. Пасьля няўдалых перамоваў нямецкага вайсковага прадстаўніцтва з бальшавікамі па праблеме аб'яднаньня ўсіх беларускіх земляў у складзе БНР і бязвыніковай паездкі дэлегацыі БНР у Маскву канчаткова адпалі надзеі на тое, што бальшавікі ня будуць улазіць ва ўласнабеларускія справы.**

Заставалася надзея, што працэсам станаўленьня беларускай дзяржаўнасьці ня будуць перашкаджаць немцы. Надзея гэтая мела пэўныя падставы: за часы існаваньня БНР Беларусь як незалежную дзяржаву прызналі Арменія, Аўстрыя, Грузія, Летува, Латвія, Турцыя, Фінляндыя, Чэхаславакія, Эстонія, Украіна, Беларускія дыпламатычныя місіі былі прысланыя да Рэгенцыйнай Рады ў Варшаву, у Бэрлін, Бэрн, Капэнгагэн. У Кіеве была створана беларуская Гандлёвая Ізба.

Паўсюдна ў краі пашыралася беларуськасьць, былі ўведзены пашпарты грамадзян БНР. Амаль усе адміністрацыйныя пасады знаходзіліся пад кантролем урада БНР. Дзейнасьць Рады й Народнага Сакратарыята была накіраваная на падрыхтоўку да перайманьня рэальнай улады на Беларусі. Для немцаў Рада была рэзэрвовым урадам, які мог быць прызнаны ў выпадку паражэньня для Нямеччыны зыходу вайны.

Аднак умовы першай сусьветнай вайны дыктавала ўжо не Нямеччына, а краіны Антанты. У выніку іх наступу на заходнім фронце Нямеччына вымушана была падпісаць 27 жніўня 1918 года Дадатковае пагадненьне да Берасьцейскага трактату з урадам РСФСР. Згодна з гэтай дамовай немцы ўзялі на сябе абавязкі: "не выклікаць, не падтрымліваць самастойных дзяржаўных арганізацыяў", не ўмешвацца ў адносіны паміж "рускай дзяржавай і яе асобнымі вабласьцямі". Акрамя таго, немцы пачыналі эвакуацыю сваіх войскаў з Усходняй Беларусі. На зьмену ім прыходзілі бальшавіцкія войскі. Усё гэта паставіла ўрад БНР у вельмі складанае становішча, так як уласныя узброеныя сілы толькі-толькі пачалі фармавацца.

У гэтай сытуацыі беларускі ўрад робіць апошнюю спробу дамагчыся прызнаньня незалежнасьці з боку Нямеччыны.

20 кастрычніка Рада накіравала ў Бэрлін сваю дэлегацыю. Аднак Лістападаўская рэвалюцыя ў Нямеччыне прымусіла дэлегатаў вярнуцца назад, у Менск.

Усе гэтыя падзеі рэзка абвастрылі адносіны паміж прадстаўнікамі розных палітычных плыняў у Радзе. У выніку ў кастрычніку 1918 года быў створаны новы ўрад БНР на чале з Антонам Луцкевічам. Гэты ўрад, як і папярэдні, вымушаны быў весьці актыўную зьнешнепалітычную дзейнасьць.

Галава ўрада правёў у Кіеве перамовы з урадам Украіны, у выніку якіх была дасягнута дамоўленасьць аб прадастаўленьні Беларусі грашовай пазыкі, а таксама аб стварэньні на Украіне Беларускага войска. Там жа, у Кіеве, А.Луцкевіч пачаў неафіцыйныя перамовы з бальшавікамі з мэтай стварэньня кааліцыйнага беларускага ўраду ў выпадку ўсталяваньня ў Беларусі Савецкай улады. Кааліцыя з бальшавікамі была цалкам магчымай, калі ўлічыць, што ўрад А.Луцкевіча ўяўляў сабой кааліцыю прадстаўнікоў сацыялістычных партый.

У лістападзе 1918 года ў Маскву на перамовы па гэтаму пытаньню выяжджаў А.Луцкевіч, які сустракаўся там з У.Леніным. Аднак перамовы не прынесьлі жаданых вынікаў. Як зазначыў у сваім "Пакутным дакумэнце-споведзі" у 1940 годзе А.Луцкевіч, "Савецкія ўлады ў Маскве, згаджаючыся на стварэньне Савецкай Беларусі, рашылі зьдзейсьніць гэта самастойна, без удзелу беларускіх нацыяналістаў. Непазьбежная акупацыя ўсёй Беларусі бальшавіцкімі войскамі стала відавочнай. Да таго ж усё агрэсыўней у адносінах да Беларусі паводзілі сябе палякі."

Таму ў лістападзе 1918 года шэсьць членаў Віленскай Беларускай Рады - А.Луцкевіч, В.Ластоўскі, Д.Сямашка, В.Талочка, К.Фалькевіч і Я.Станкевіч уваходзяць па дамове з летувіскім урадам у склад Літоўскай Тарыбы. Стварэцца Міністэрства беларускіх справаў пры летувіскім урадзе. Міністэрства ўзначальвае Язэп Варонка - міністар замежных спраў ва ўрадзе БНР.

З сьнежня 1918 года ў Вільню перабіраецца і Рада БНР, ратуючыся ад арыштаў бальшавікамі, якія занялі Менск і абвясьцілі ўрад БНР нісклядзеным і распушчаным.

У хуткім часе члены Рады пераехалі ў Горадню, якая па пастанове зьезда прадстаўнікоў беларускіх грамадзка-палітычных арганізацый Гарадзеншчыны на пачатку сьнежня ўвайшла ў склад Летувы, каб пазьбегнуць польскай акупацыі. А пагроза гэтая была вельмі рэальнай. Большасьць польскіх палітыкаў марыла аб аднаўленьні Рэчы Паспалітай у межах 1772 года й таму чуць не жадала аб прызнаньні БНР у якасьці нацыянальнага дзяржаўнага фармаваньня.

Таму 21 сьнежня 1918 года Рада БНР у Горадні на сваёй нарадзе ствараe Савет дзяржаўнай абароны на чале з Вацлавам Ластоўскім і генэралам Кандратовічам. У падначаленьне Савету перадаваліся: 1-шы беларускі пяхотны полк (камандзір Шчэрба-Раевіч), 2-гі беларускі полк (камандзір Усьпенскі), беларускі гусарскі эскадрон, Гарадзенская камэндатура й цалкам неўкамплектаваны асобны пяхотны батальён.

Увечары 27 сьнежня ў сьцюдзёным, з выбітымі вокнамі вагоне, у Горадню прыехаў галава ўрада Антон Луцкевіч. Апошнія дні 1918 года й першыя дні 1919 былі прысьвечаны ўмацаваньню беларускага руху ў Горадні, наладжваньню сувязей паміж рознымі беларускімі арганізацыямі й установамі.

Горадня ў тыя часы, як, дарэчы, й зараз, была адным з самых значных цэнтраў беларускасьці. Яшчэ пры немцах на Гарадзеншчыне амаль паўсюдна на тэрыторыі колішніх валасьцей пачалі ўзьнікаць Валасныя Беларускія камітэты. У самой Горадні дзейнічалі беларуская губэрнская ўправа, Беларускі камітэт, Павятовая Рада, Цэнтральная Рада Гарадзеншчыны, беларускі клюб "Бацькаўшчына", выдавалася газэта "Беларускі народ".

У Горадні Рада БНР не спыняла й дзейнасьць на дыпляматычным фронце. 2 студзеня Антон Луцкевіч ад імя Рады накіраваў дзьве ноты польскаму ўраду: супраць анэксіі Аўгустоўскага павету й супраць абвяшчэньня ў Вільні мабілізацыі ўсяго мужчынскага насельніцтва польскай камандай "Окрэнгу Войсковэго Літвы і Бялорусі". 8 студзеня дыпляматычным прадстаўніком ЗША, Англіі, Францыі і Італіі была накіравана нота пратэсту Рады Міністраў БНР, падпісаная галавой урада А.Луцкевічам і міністрам замежных справаў В.Захаркай. Урад БНР у гэтай ноце заклікаў краіны Антанты прыняць Беларусь, якая не мае дастатковай узброенай сілы для змаганьня з ворагамі, пад сваю абарону, сьпыніць разрабаваньне суседнімі дзяржавамі тэрыторыі Беларускай Народнай Рэспублікі.

Ураду Нямеччыны была накіравана прапанова здаць уладу на Беларусі прадстаўнікам беларускіх арганізацый. З гэтай мэтай з Горадні ў штаб нямецкага вайсковага адміністрацыйнага абшару Обэр Ост, які ў гэты час уключаў у сябе разам з Летувой і Курляндыяй трэцюю частку ўсіх акупаваных немцамі беларускіх земляў, выяжджае генэрал Кандратовіч. Але немцы на перамовах з ім не заявілі, што Обэр Ост расфармоўваецца, ды і штаб 10-й нямецкай арміі мае намер хутка пакінуць Горадню. Да таго ж немцы яшчэ раз падкрэсьлілі, што не могуць дапусьціць утварэньня беларускага фойска. (Нямеччына, як і краіны Антанты, упарта не бачыла беларускай праблемы).

Не атрымаўшы дапамогі ад Антанты, Рада БНР, рэальна ўсьведамляючы сутыкненьне з інтарэсамі Польшчы, якое неадхільна набліжалася, паспрабавала "вырваць, што магчыма" для беларусаў, ад урада Польшчы. Аднак Польшча адмовілася падтрымоўваць адносіны з БНР на дзяржаўным узроўні. У Варшаве было створана толькі прадстаўніцтва БНР у асобе Л.Дубейкоўскага, у кампэтэнцыю якога ўваходзіла толькі выдача пашпартоў беларускай моладзі для выезду на вучобу ў Чэхаславакію. Пры штабе Пілсудзкага часова існавала ваенная камісія БНР, пазбаўленая права ствараць беларускія Вайсковыя фармаваньні.

На пачатку 1919 года ў Варшаву прыехаў упаўнаважаны ўрада БНР А.Смоліч. Ён дамагаўся стварэньня рэгіянальнага ўраду ад Віленскай і Гарадзенскай Рад, арганізацыі беларускага друку, адкрыцьця беларускіх школаў, разьвіцьця выдавецкай справы. Але...

...Між тым, на пачатку 1919 года палякі пачалі сур'ёзны наступ на беларускія землі. На пратэсты ўрада БНР упаўнаважаны гэрманскага ўраду ў Летуве Цыммерле заявіў, што нічога ня можа зрабіць, бо нямецкі бок па патрабаваньню Антанты абавязаны з 25 студзеня 1919 года прапускаць польскія войскі, якія зараз, не сустракаючы супраціўленьня, паступова рухаліся на Горадню.

Першыя атрады рэгулярнага польскага войска, што крочылі па Гарадзеншчыне, яшчэ хоць крыху бралі да ўвагі "самабытнасьць" беларусаў, бо многія польскія каманьдзіры самі былі беларусамі-каталікамі. Гэтыя атрады нават пэўны час не чапалі беларускія павятовыя рады й камітэты, якія пасьля адыходу немцаў у большай частцы Гарадзеншчыны здолелі ўзяць у свае рукі ўсю адміністрацыю. Зусім інакш паводзілі сябе атрады польскага "партызана" Дамброўскага, якія пасьля студзенскай спробы аваладаць Вільняй распачалі ўзброеную барацьбу супраць беларускай улады, рабаўніцтва беларускіх вёсак і мястэчак. Да атрадаў Дамброўскага далучыліся банды пана Бісьлінга, які помсьціў былым сваім сялянам, палячы вёскі, забіваючы людзей.

Злачынствы гэтых бандаў былі настолькі відавочнымі, што нават прадстаўнік польскага міністэрства замежных спраў у Горадні Станіслаў Івановскі (брат аднаго з пачынальнікаў беларускага Адраджэньня Вацлава Івановскага) быў абураны, у той час, як пан Пілсудзкі публічна дзякаваў Дамброўскаму за адважную "оброну крэсов всходніх".

Небясьпека з захаду дапаўнялася трывожнымі весткамі, якія йшлі з усходу Беларусі. У ноч на 2 студзеня 1919 года бальшавікамі была абвешчана Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка.

Рада БНР абвяшчалася па-за законам. 16 студзеня 1919 года ЦК РКП(б) прыняў рашэньне: вылучыць са складу БССР Віцебскую, Магілёўскую й Смаленскую губэрні, ураду Беларусі зьвярнуцца да ўраду РСФСР з прапановай пачаць перамовы аб аб'яднаньні.

Ленін на гэты конт адзначыў:" Рэспубліка - буферная й патрэбная пастолькі, паколькі мяжуе з іншымі краінамі. Паколькі Смаленская, Віцебская й Магілёўская губэрні не мяжуюць з іншымі дзяржавамі - то іх можна выключыць". Затым пачаліся арышты беларускіх дзеячоў у Менску. У лютым 1919 года загадам з Масквы Беларусь аб'ядноўваецца з Савецкай Летувой у так званы ЛітБел.

Такім чынам, Рада БНР у Горадні апынулася паміж двух агнёў. З Заходу імкліва наступалі польскія войскі. З другога боку, бальшавікі таксама імкнуліся пашырыць тэрыторыю беларускага "буфэра" шляхам далучэньня Гарадзеншчыны, дзе дзейнічаў ненавісны ім урад БНР.

У такой сытуацыі 25 сакавіка 1919 года ў Горадні адбылася ўрачыстая імпрэза з нагоды гадавіны абвяшчэньня БНР. А палове сёмай вечара у памяшканьні Беларускага клюбу, дзе мясьціліся таксама й Рада БНР па вуліцы Саборнай, 23 (Сучасная Савецкая, 17) сабраліся члены Рады БНР, прадстаўнікі беларускіх арганізацый Горадні.

Нам невядома зараз дакладна, аб чым за вячэрняй гарбатай гаварылі прысутныя на імпрэзе. Напэўна, і сьвяточнасьць момента была азмрочана тымі абставінамі, у якіх сьвяткавалася гадавіна БНР: усьведамленьнем таго, што дзяржаўнасьць Беларусі, не пасьпеўшы нават развіцца як сьлед, стаіць на мяжы зьнішчэньня.

Ці не праўда, знаёмая й нам зараз сытуацыя? У красавіку 1919 года Рада БНР перад пагрозай быць інтэрнаванай польскімі войскамі перабралася з Горадні ў апошні свой прытулак на беларускай зямлі - у Вільню. Сёньня Вільні ў нас няма. Адступаць перад шалёным нападам імпэрскіх сілаў няма куды. Ці вартыя мы таго, каб людзьмі звацца?.. Час пакажа...

**Вітаўт РУДНІК.**




**«СЬВЯТА» КОЖНЫ ДЗЕНЬ...**

**Фатаграфаваў А.УЛАДАСЕВІЧ.**

# ХТО БУДЗЕ ДБАЦЬ АБ ВЁСЦЫ?

"Аб разьвіцьці Аграрна-прамысловага комплексу" - так называлася чарговая прэс-канфэрэнцыя, якую ладзілі для журналістаў вобласьці з Гарадзенскім аблвыканкамам.

Амаль з цэлым дакладам аб складўшымся становішчы ў сельскагаспадарчай галіне выступіў намесьнік старшыні аблвыканкама М.Логвін. Ад пачатку дакладчык зазначыў, што аграрна-прамысловы комплекс павінен займаць прыярытэтнае месца ў народнай гаспадарцы і, на яго думку, раней так і было. У Гарадзенскай вобласьці вытворчасьць прадукцыі сельскай гаспадаркі была на ўзроўні перадавых краін Захада. Было ўсё і ў нашых крамах. Аднак, за гады так званай перабудовы сельская гаспадарка вобласьці апынулася амаль у крытычным стане.

У калгасах і саўгасах з-за недахопу сродкаў практычна адсутнічае запас ГЗМ, высокія цэны на энэрганосьбіты, ужо колькі часу практычна не абнаўляюцца машынна-трактарныя паркі, няма за што набываць мінэральныя ўгнаеньні, большасьць гаспадарак вобласьці неплацёжаздольныя, сярэдні заробак калгасьніка на канец мінулага года склаў усяго толькі 49 тысячаў рублёў.

Называлася яшчэ мноства фактаў, якія датычылі мяса, малака, садавіны, банкаўскіх крэдытаў і г.д. Цікава, што і намесьнік старшыні аблвыканкама і яго памочнікі толькі разводзілі рукамі, маўляў, ад нас амаль нічога не залежыць, такая палітыка ўрада і ўсё. А яны, выдома не сядзяць склаўшы рукі, неадноййчы дасылалі ў Менск тэлеграмы з прапановамі й патрабаваньнямі, рыхтуюць новыя праграмы па перабудове калгасаў і саўгасаў у новыя формы гаспадараньня, бо ўсёроўна, маўляў, за імі - будучае. Намячаюцца ствараць акцыянэрныя таварыствы непасрэдна паміж вытворцамі сельгаспрадукцыі і яе перапрацоўшчыкамі дзеля таго, каб было як найменей пасрэднікаў. Ёсьць планы засеяць большыя плошчы збожжам, цукровымі буракамі, рапсам і іншымі культурамі, якія сёньня найбольш патрэбны для харчовай прамысловасьці краіны, каб не завозіць іх з-за мяжы.

Як заўсёды мноства планаў, толькі вось загады па-ранейшаму ідуць зьверху. У палітыку гарадзенскія кіраўнікі не ўлазілі, аднак далі зразумець, што падтрымоўваюць створаную ў мінулым годзе ў вобласьці былым намесьнікам Гарадзенскага аблвыканкама Гіруцем, партыю Аграрнікаў. Нават сам М.Логвін заявіў, што праграму партыі падтрымлівае хутка стане яе членам. Нагадаю толькі, што "Пагоня" у мінулым годзе паведамляла аб стварэньні гэтай партыі. На ўстаноўчым сходзе практычна не было амаль ніводнага звычайнага селяніна, у асноўным старшыні калгасаў. І лішні раз нагадаю, што будучае сельскай гаспадаркі ў нашай краіне гэта партыя бачыць за калгасамі.

Можа таму пытаньне аб фэрмерстве на тэрыторыі вобласьці вялося нават трохі іранічна. Маўляў, самі прыдумалі яго, а зараз ня ведаем, што з ім рабіць. Які можа быць сёньня ўласьнік, калі адзін трактар каштуе 30-40 млн. рублёў і яго набыць не здольны нават калгас, не тое што фэрмэр. І ніякай дзяржаўнай праграмы, якая магла б па-сапраўднаму яго падтрымаць не існуе, таму і размовы быць не можа.

За ўсімі аповядамі вабласных кіраўнікоў, за іх лічбамі і фактамі адчувалася, што вінаватых тут няма. Развал, які ўчыніўся ў сельскай гаспадарцы ляжыць на плячах урада. І нашы кіраўнікі чакаюць, калі ўрэшце дойдзе да крытычнага пункту, і калі адыдзе гэты Вярхоўны Савет разам з камандай Кебіча, а ўзамен яны рыхтуюць сваю палітыку, якую выявяць праз тую ж партыю аграрнікаў, што бачыць будучае за калгасамі й за новай адміністрацыйнай сістэмай на чале якой яны рыхтуюцца зноў паўстаць. Што ж, жыцьцё пакажа, як будзе далей і, напэўна, доўга чакаць не давядзецца. Шкада толькі, што ў вёсцы ўжо зараз амаль няма каму працаваць.

Падчас прэсканфэрэнцыі быў адзін цікавы момант. Нехта абурыўся, што вялікія працэнты за крэдыты бяруць банкі, і, не маючы ніякіх адносін да вытворчасьці, плацяць сваім супрацоўнікам вялікія зарплаты. Няўпэўнена называлася лічба - 800 тыс. рублёў - заробак радавога супрацоўніка раённага ашчаднага банка. На гэтае цікавае пытаньне папрасілі адказаць супрацоўніцу Аграпрамбанка. Праўда, адказваць яна адмовілася, маўляў, камэрцыйная тайна і хацела нешта апавядаць аб крэдытах. Аднак, слухаць яе адмовіліся.

(ав).



Фатаграфаваў Г.ПАРЫНАЎ.

# КАЛІ ЁСЬЦЬ ЖАДАНЬНЕ - ПРАЦА ЗАЎЖДЫ ЗНОЙДЗЕЦЦА

Забэтанаваны падворак, невялічкая майстэрня - вось і ўсё, што трапілася мне на зрок пад час візыту да гарадзенца П.К.Гародзіча. Павал Касьперавіч пасьля скарачэньня з дрэваапрацоўчага камбінату доўгі час быў без працы, на жыцьцё зарабляў шляхам выпадковых заробкаў. Нядаўна Павал Касьперавіч заняўся ўласнай справай - вяжа мэталёвыя сеткі для агароджы лецішчаў, надзелаў пад будаўніцтва катэджаў.

- Спадар Гародзіч, як вы наважыліся на ўласную справу?

- Надакучыла сядзець без сродкаў на існаваньне. У мяне тры дачкі-нявесты, іх трэба весьці ў людзі. Як жа без грошай сабраць ім спадчыну. Спрабаваць сябе ў спэкуляцыі ня хочацца - гэта не маё. А вось зарабіць грошы на тым, што ўмееш - абавязкова трэба. Адным словам я ўзяў патэнт на індывідуальную дзейнасьць, даў аб'яву ў рэклямным дадатку і справа пайшла.

- Вы працуеце на купленай сыравіне?

- Не, дрот прывозяць заказчыкі, абсталяваньне маё. На сёньня, я маю тры машыны для вырабу сеткі.

- Колькі можна за дзень зьвязаць сеткі і колькі каштуе пагонны мэтар?

- Колькасьць мэтраў залежыць ад шырыні вачка і сталістасьці дроту. Большае вачко і вязкі дрот - гэта дадатковыя 5-6 мэтраў сеткі на працоўны дзень. Меншае вачко і пруткі дрот не даюць інтэнсіўнасьці працы. Ад гэтага, таксама, **залежыць і аплата.**

- За які пэрыяд часу вы выконваеце заказ?

- На лецішча, а гэта 100-120 мэтраў сеткі, я выконваю за тыдзень. Заказ у 200 мэтраў раблю дзён 10.

- Вы робіце сетку дэкаратыўную ці простую?

- Пакуль што простую, але трох гатункаў. Ёсьць задумкі зрабіць нешта арыгінальнае, але папярэдняе хачу стаць на ногі, пашырыцца. Вось тады й пагаворым аб адмысловасьці.

- Скажыце, вы дапамагаеце сваім заказчыкам з устаноўкай сеткі?

- Практычна ўсім, бо маю прыстасаваньне для нацяжкі сеткі. Без гэтага не абыйсьціся. На жаль, дадатковыя заняткі адбіраюць нямала часу, што непажадана, бо заказаў у мяне шмат. Зараз усе хочуць адгарадзіцца, забясьпечыцца.

Распытваў У.ГЕРАСІМОВІЧ.

# РАСКОША ЦІ СРОДАК СУВЯЗІ?

Вакол тэлефанізацыі кватэр у Горадні працяглы час існуе ажыятаж. Вялікая колькасьць гараджан па некалькі дзесяцігодьдзяў чакае сваёй чаргі на ўстаноўку тэлефона, але ёсьць і такія, хто апярэджваюць чаргавікоў: адны - маючы ільготы, другія - пэўныя давědкі, трэція - уплывовых знаёмых. А чарга не зьмяншаецца, сёньня ў ёй стаяць некалькі дзесяткаў тысяч чалавек (дакладную лічбу ў цэху гарадзкой тэлефоннай сувязі не паведамілі). Устаноўка тэлефоннага апарату ў кватэры зараз каштуе 80 тысяч рублёў, а для арганізацый - каля 1 мільёна 300 тысяч. Для фізычных асоб ёсьць магчымасьць паскорыць працэс праз камэрцыйную службу, але абыйдзецца гэта ўжо ў 380 тысяч "зайцоў", і жадаючых хапае.

Д.А.

## УЛАДЫКА ВАЛЯНЦІН АД'ЯЗДЖАЕ ДА БАКУ

Рашэньнем сьвятога Сінода Расейскай праваслаўнай царквы, кіраўнік Гарадзенска-Ваўкавыскай праваслаўнай эпархіі - Уладыка Валянцін пераязджае на іншае месца службы ў горад Баку.

Пакуль не вядома, хто заступіць на месца Уладыкі ў Горадні. Гэта павінен у хуткасьці вырашыць сьвяты Сінод Беларускай праваслаўнай царквы.

## НОВАЕ АБСТАЛЯВАНЬНЕ

Днямі ў цэнтральнай навукова-дасьледчай лябалаторыі Гарадзенскага дзяржаўнага медінстытута змантаваны атамнаабсорпцыённы спэктр, пры дапамозе якога можна весьці досьледы на ўтрыманьне ў арганізме чалавека цяжкіх мэталаў, нітратаў ды іншых шкодных рэчываў. Атамнаабсорпцыённы спэктр не адзіны набытак, зроблены за апошні час кіраўніцтвам ГДМІ, нядаўна тут устаноўлены фатомэтр, таксама робяцца заходы, каб у хуткім часе набыць храматограф.

## У ГАТЭЛІ ЦІША

На тры месяцы спыніў працу Гарадзенскі гатэль "Гродна". Справа тут ня ў аварыйным стане нумароў ды іншага, а ў адсутнасьці кліентаў. Не лепшае становішча і ў іншых гатэлях горада. Здараецца так, што нават самыя танныя нумары месяцамі прастойваюць без жыхароў.

## СЬЛЯДЫ БЕЛАРУСКАСЬЦІ ЗЬНІКАЮЦЬ

Яшчэ нядаўна, на гарадзенскім чыгуначным вакзале ня рэдка можны было пачуць абвестку на беларускай мове. На жаль, гэтыя першыя квёлыя парасткі беларушчыны на адным з самых людных месцаў горада зьнікаюць.

Прычыны не ў нежаданьні кіраўніцтва вакзалу спрыяць адраджэньню нацыянальнай спадчыны беларусаў - мовы, а ў недахопе сродкаў рабіць пераклады тэкстаў, табліцаў ды многага іншага. Грошай хапае толькі на заробак служачым.

## БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА ПРАПАРШЧЫКАЎ

У Пінску, на базе разфарміраванага Цэнтру падрыхтоўкі спэцыялістаў для патрэб расейскага ваенна-марскога флёту створана школа падрыхтоўкі падафіцэраў, для беларускага памежнага войска.

Функцыянаваньне школы істотна вырашыць праблему папаўненьня памежнікаў прафэсійнымі спэцыялістамі. Сёлета плянуецца першы выпуск курсантаў.

Дарэчы, тэрмін навучаньня у школе ўсяго каля паўгада.

Г.У.

# ЗЛАЧЫННАСЬЦЬ РАСЬЦЕ, АЛЕ ШТО ЯШЧЭ БУДЗЕ, КАЛІ АБ'ЯДНАЮЦЦА ДЗЬВЕ ГРАШОВЫЯ СІСТЭМЫ?

У прэс-цэнтры вабласнога ўпраўленьня ўнутраных спраў адбылася сустрэча кіраўнікоў ворганаў міліцыі з журналістамі. Аб крымінальнай сытуацыі ў вобласьці ў мінулым годзе і ў студзені 1994 года распавядаў начальнік УУС пры Гарадзенскім аблвыканкаме генэрал Ф.Гудзей.

Усяго ў 1993 годзе было зьдзейсьнена 3724 злачынствы. Лічба гаворыць сама за сябе. Асабліва высокі працэнт крадзяжоў як дзяржаўнай так і ўласнай маёмасьці, прагназуецца і надалей іх рост. У шмат якіх дзяржаўных установах паздымалі пазаведамасную ахову, многія аб'екты з вялікімі матэрыяльнымі каштоўнасьцямі практычна не ахоўваюцца. Апошнім часам усё часьцей рэгіструюцца крадзяжы калгаснай і саўгаснай жывёлы. Крадуць нават тады, калі там сядзіць вартаўнік.

Крытычная абстаноўка складваецца ў сфэры забойства.ў. За мінулы год іх колькасьць з 68 сягнула да 81 выпадкаў. Прычым большасьць іх адбываецца на падпітку і асабліва цяжка, што ўсё часьцей бацька забівае сына, сын - бацьку й г.д.

Падлеткавая злачыннасьць у параўнаньні з пазамінулым годам вырасла на 26%, іх колькасьць узрасла да 886 выпадкаў. Магчымасьці інспэкцыі па справах непаўналетніх абмежаваныя.

Як зазначыў генэрал Гудзей, зьмяніўся сам строй і зараз мы знаходзімся на першай стадыі капіталізма. Усе рвуць і прыватызуюць, а матэрыяльная база міліцыі засталася тая самая - гутаркі, упрашваньні. На яго думку патрэбны й новыя законы, але такія законы, якія былі б забясьпечаны матэрыяльна. Зараз змагацца са злачынцамі шляхам лёзунга і закліканьня немагчыма.

З насьцярожанасьцю чакаюць у міліцыі і аб'яднаньня двух грашовых сістэмаў паміж Расеяй і Беларусьсю. Само сабой паўстае пытаньне: што за гэтым пацягнецца крымінальным сэнсе. Пойдуць працэсы "адмываньня" рублёў і "зайчыкаў", а да гэтага ніхто не рыхтуецца і ніхто не думае.

У Гарадзенскіх сьледчых зараз шмат крымінальных спраў па асобах, якія зьдзейсьнілі злачынствы ў нас, а жывуць за мяжой. Дабрацца да іх практычна не ўдаецца, паколькі нават тыя пагадненьні, якія ёсьць паміж новымі краінамі, дзейнічаюць хіба толькі на паперы. Аддувацца за гэта ў Беларусі давялося двум слáвым міністрам.

Дарэчы, на цікаўнае пытаньне, ці ёсьць новыя зьвесткі ў справе забойства Д.Арцымені, генэрал упэўнена зазначыў, каб была адна краіна, як раней, злачынцу адшукалі б. Пакуль вядомы мэханізм зьдзяйсьненьня злачынства і справа ўжо за малым...

Прыводзілася лічба, што за апошнія два гады 42 супрацоўнікі міліцыі былі прыцягнуты да крымінальнай адказнасьці.

У сфэры эканомікі за мінулы год зьдзейсьнена 1163 злачынствы і надалей не сьціхае справа з вывазам каляровых мэталаў.

Да 89 выпадка узрасла лічба фактаў фальшываманецтва. Мафіёзныя структуры ў некаторай сытуацыі кантралююць гандлёвыя кропкі.

У цэлым сытуацыя выклікае занепакоенасьць, хоць генэрал і запэўніваў, што яна кантралюецца. Цяжка ўявіць, што ў нас будзе, калі аб'яднаюцца дзьве грашовыя сістэмы і сюды наедуць расейскія бізнэсмэны разам з сваёй мафіяй. І ці здолее тады наша міліцыя нас аберагчы. Напэўна, гэтага ня ведае і сам генэрал. Адзінае, што пакуль заспакойвае, калі так можна сказаць, што колькасьць злачынцаў у нашай вобласьці не самая высокая ў Беларусі.

Падчас прэсканфэрэнцыі задавалася мноства пытаньняў, на якія журналісты атрымалі адказы. А ў заключэньні за лепшыя публікацыі аб міліцыі некаторым з газэтчыка былі ўручаны грашовыя прэміі.

**М.МІКАЛАЙЧЫК.**

# КАМУ СЛУЖАЦЬ ВЭТЭРАНЫ?

Памятаю, як заходзіліся ў спрэчках вэтэраны на сэсіях Вярхоўнага Савету, калі жадалі збэсьціць беларушчыну. Прынізіць яе годнасьць, пасьмяяцца й ачарніць дзяржаўныя сымбалі. Навязаць дзьвухмое і яшчэ што-небудзь такое, што б адсовала беларуса ад сваіх каранёў, вярнула яго на шлях бяспамяцтва. Назіральны чытач згадае, што гэта было, а цяпер вэтэраны пякуцца аб суверэнітэце, дбаюць пра дабрабыт народа. Ім гэта найболып важна.

Так то яно так, але паспрабуйма разабрацца аб усім па парадку. Калі пракамуністычная большасьць, дзякуючы небезвядомым падзеям, праігрывала, то чыясьці вопытная рука, як апошні рэзэрв кідала ў бой вэтэрана. Менавіта яны й бэсьцілі ўсё, што хоць як нагадвала беларусам гісторыю. Нявопытнай у "палацавых інтрыгах" апазіцыі было цяжка разабрацца ў гэтых складаных перыпэтыях палітычнай барацьбы. Апазыцыя бараніла заваёвы маладой дэмакратыі й праігрывала час, якога намэнклятуры хапала, каб ачамацца, узьвесьці ўсё й зтуртавацца. Так было кожны раз, калі партнамэнклятура адчувала небясьпеку. Чаму ж зараз барацьбіты-вэтэраны супраць беларушчыны змоклі і спрабуюць паказаць сябе патрыётамі народу й дзяржавы. Па-першае, дзякуючы іх "высілкам" да ўлады прыйшлі тыя, хто ўвесь час нацкоўваў іх на зьнішчэньне нашай дзяржавы і аднову СССР. Па-другое, усе партыі, рухі і аб'яднаньні камуністычнай арыентацыі ўжо паклаліся ў адданасьці курсу на сувэрэнітэт перад новымі ўладамі ў Вярхоным Савеце. Заставацца моўчкі - гэта значыць можна не атрымаць запрашэньне да разьдзелу пераможнага пірага. А вэтэраны ой як мрояць аб прывілеях за заслугі (невядома якія, перад якой краінай і перад якім народам). Па-трэцяе, тым, хто атрымаў наноў уладу, нацкоўваць пэнсіянэра на нейкі чарговы "газават" ня з рукі, бо супраць каго - супраць сябе. Вэрхал аб карупцыі і разборкі ім не патрэбны. Яны пакуль што ня ўсё разграбілі, "прыхватызавалі", здрадзілі. Калі яны поўнасьцю выканаюць сваю рабаўнічую і антынароднуіо праграму, то ім, новым гаспадарам украдзеняй у дзяржавы і яе народа маёмасьці , не спатрэбяцца такія памагатыя. Апошняе, што зробяць сучасныя прыхватызатары перад тым, як выкінуць пэнсіянэра за борт гісторыі, - яшчэ раз скарыстаюць іх паслугі, каб прыняць закон Рэспублікі Беларусь аб абароне і захаваньні "прыватнай уласнасьці".

**П.ПАДЛЯШУК,**
**г.Горадня.**



**ВЯСНОВЫЯ МАТЫВЫ.**

Фатаграфаваў Б.МЕШЧАРАКОЎ.

# МІЛІЦЫЯНЕРЫ БУДУЦЬ БЕЗ ПОРТКАЎ

У апошнія месяцы цэны ўзраслі у некалькі разоў, а фінансаваньне ворганаў унутраных спраў не павялічылася. Так, на пашыў новых строеў неабходна 44 мільярды рублёў, на пакупку транспарту - 92 мільярды, на набыцьцё зброі, сродкаў сувязі ды іншых тэхнічных прыстасаваньняў - 20 мільярдаў. А Саўмін выдзяліў на сёлетні год усяго 18 мільярдаў.

Сёньня з 16 фабрык 12 перасталі шыць новыя строі міліцыянтам, а астатнія дашываюць з астаткаў тканіны. Міністэрства ня мае сродкаў, каб заплаціць ім. Акрамя таго, не засталося і старых строяў. Дык у чым хадзіць міліцыянтам? Спадар Віктар Жураўскі, які адказвае за матэрыяльнае забеспячэньне, пажартаваў:

- Будзе міліцыянт ахоўваць парадак без порткаў.

На гэта Вячаслаў Кебіч адказаў:

- Ну, на порткі мы вам знойдзем.

Яно-то добра, але акрамя порткаў, міліцыі патрэбны зброя, сродкі сувязі, сучасныя машыны, бо не ганяцца ж за злачынцамі на дабітым "козліку" з дубінкай.

# НЕ СЬПЯШЫЦЕ У КАТАЛАЖКУ, А ТО БУДЗЕЦЕ НЯМЫТЫМІ

Намесьнік міністра ўнутраных спраў Барыс Матусевіч прапануе правесьці амністыю. Зразумела, крок вельмі непапуярны як сярод насельніцтва, так і сярод супрацоўнікаў унутраных спраў. Але генэрал-маёр, які адказвае ў міністэрстве за выпраўленча-працоўныя ўстановы бачыць толькі ў гэтым выратаваньне.

Дык чаму намесьнік міністра выступае за амністыю? Бо няма куды садзіць асуджаных. Сёньня амаль у кожнай калёніі сядзяць па тры тысячы чалавек, што намнога перавышае дапушчальныя нормы. Абслугоўваючаму пэрсаналу хапае сіл толькі на тое, каб накарміць вязьняў, якія прадастаўлены самі сабе і жывуць як павуці у банцы. Аб дысцыпліне сярод іх гаварыць не прыходзіцца. Сталі нярэдкімі выпадкі калецтва, боек. Насьпяе бунт.

Нялепшае становішча і ва ўстановах папярэдняга заключэньня, дзе знаходзяцца 50 тысяч чалавек. Гэта рэкордная лічба за ўвесь пасьляваенны час. А арыштаваныя працягваюць паступаць. У сьледчым корпусе гарадзенскай турмы замест 170 чалавек знаходзіцца 546. Ды і ў іншых месцах замест 8 чалавек у камэру садзяць па 15-20. На мыцьцё ў лазьні кожнаму прыпадае толькі па 20 хвілін. За гэты час яшчэ трэба і памыць сваю бялізну. Таму у апошні час выяўлены выпадкі захворваньня каростай.

Міністэрству ўнутраных спраў паабяцалі аддаць восем вызвалішыхся ваенных гарадкоў. Але аддалі толькі тры. Таму вострa не хапае памяшканьняў, якія патрэбны ня заўтра, а менавіта сёньня.

Памяшканьняў няма, таму, як лічыць Барыс Матусевіч, выхад адзін - амністыя. На яго думку, у калёніях знаходзяцца нямала людзей, асуджаных за дробязныя справы. Яны даўно ўжо выкупілі сваю віну прыкладнымі паводзінамі, але па заканадаўству іх нельга вызваліць. Таму неабходна амністыя, якая б дазволіла зьняць напруджаньне. Інакш бунт непазьбежны.

# ЗА ЛІТОЎСКІХ КАМУНІСТЫХ

Ня толькі генэрал-палкоўнік Уладзімір Ягораў панёс пакараньне за выдачу літоўскіх камуністых. Само кіраўніцтва міністэрства назвала дзеяньні супрацоўнікаў МУС непрадуманымі. Начальніку аддзела крымінальнага вышуку УУС Мінгарвыканкама Міхасю Мядзьведзеву, які не забясьпечыў працэсуальнага афармленьня дакумэнтаў, аб'яўлена строгая вымова. Начальнік упраўленьня крымінальнага вышуку МУС Пятро Семянкевіч папярэджаны аб няпоўнай службовай адпаведнасьці.

**Уладзімір СЕМЯНЦОЎ.**



## ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ

В.ПАНУЦЭВІЧ

# ГОРАДЗЕНШЧЫНА Ў НАЦЫЯНАЛЬНЫМ РУХУ У 1918-1919 ГАДОХ

## 6.Аліянцкія місіі

Як-ні-як беларускае пытаньне выплыла ў Парыжы таксама на паверхню. У аснаўным ніхто з аліянтаў не прызнаваў права для Польшчы на беларускія і ўкраінскія землі. У аліянтаў пачаўся мантаж усходняй лініі польскіх інтарэсаў, названай пазьней "лініяй Кэрзона".

Лінія гэта пакідала за Палякамі Сувальшчыну, Аўгустоўшчыну, Беласточчыну, Бельшчыну - землі ужо фактычна захопленыя Палякамі. Дзеля вызначэньня гэтай лініі прыязджалі ў Польшчу, у Горадзеншчыну, у Галічыну, у Жамойць многія аліянцкія місіі, якія стараліся наладзіць суадносіны Палякау з усходнімі суседзямі. Яшчэ ў палове студзеня 1919 дзейнічыла на ўкраінскім пагранічы, дзе йшлі баі Украінцаў з Палякамі за Львоў і Галічыну, французская вайсковая місія пад кіраўніцтвам ген.Бартэлемі. 12 лютага 1919г. у Варшаву прыязджала вялікая аліянцкая місія ў складзе: брытыйскага прадстаўніцтва пад кіраўніцтвам палк.Картон дэ Вярт, амэрыканскага прадстаўніцтва пад кір. праф. Лерда, італьянскага - пад кіраўніцтвам палк.Стабіле. Да гэтай аліянцкай місіі далучылася з украінскага фронту і французкая місія ген. Бартэлемі . Камісія вызначыла дэмакрацыйныя лініі польскіх і суседніх інтарэсаў і старалася спыніць змаганьне Палякаў з Украінцамі.

У днях ад 15 да 19 лютага наведала Горадню з Коўні амэрыканская аправізацыйная місія пад кіраўніцтвам палк. Грова, маёра Росса і маёра Дзвайдта Айзэнгаўэра, пазьнейшага генэрала і прэзідэнта ЗША. Амэрыканская місія была спынілася ў гатэлі "Рояль" на Саборнай вуліцы. Яна цікавілася матарыяльным станам насельніцтва, беларускай Горадзенскай Упраўй і беларускімі вайсковымі аддзеламі. Палк. Езавітаў перадаў ёй мэмарыял аб злачынствах Палякаў у Горадзеншчыне. У іншым мэмарыяле былі прадстаўленыя аправізацыйныя патрэбы беларускага насельніцтва.

Амэрыканская місія выклікала падозраньні ў Палякаў, што Амэрыка зацікаўлена ў падтрыманьні ўраду БНР і недатыкальнасьці беларускай тэрыторыі. Таму Палякі падаслалі 30 агэнтаў з мэтай напасьці на амэрыканскую місію дзеля скампраматаваньня беларускага ўраду. Аднак хуткая акцыя каманданта гор. ппалк. Дзямідава не дапусьціла да непарадку.

Амэрыканская місія выехала 19 лютага ў Варшаву, дзе далучылася да прабываючай там альянскай Камісіі, аб якой раней была мова. Да станцыі Лапы адвёз місію камандант гораду ппалк. Дзямідаў у спэцыяльным самаходзе пад аховай, даючы амэрыканскім гасьцям 6 вайсковых кажухоў з прычыны вялікага марозу.

Бытнасьць альянцкай Камісіі ў Польшчы паўстрымлівала агрэсіўныя акты Палякаў, так што на тыдняў два было зацішша. Але калі Украінцы на Львоўскім фроньце не прынялі аліянцкіх умоваў замірэньня, нявыгадных для Украіны (28 лютага), і аліянты незадаволеныя выехалі з Варшавы на пачатку сакавіка 1919, Палякі зноў выкарысталі неакрэсьленае становішча ды пачалі далейшы наступ на украінскім і на беларускім адрэзках.

Такім чынам ужо ў другой палове сакавіка 1919 польскія аддзелы, што стаялі ў Горадзеншчыне й Віленшчыне зноў сталі рабаваць насельніцтва, арыштоўваць беларускіх ахвіцэраў, каторыя наведвалі мястэчкі й вёскі дзеля вярбоўкі ў беларускае войска і г.д.

Зноў пасыпаліся пратэсты ўраду БНР, Беларускага Міністра і жамойцкага ўраду на Мірнай Канфэрэнцы ў Парыжы. Вынікам іх быў паўторны прыезд аліянцкай місіі ў Варшаву ў канцы сакавіка 1919. Лейд Жорж гэтак выказаў абурэньне на нагласьць польскай агрэсіі:

"Мы здабылі свабоду для народаў, якія ня мелі найменшае надзеі на яе - для Чэхаў, Палякаў і іншых, яны атрымалі яе коштам крыві Італьянцаў, Французаў, Ангельцаў, а цяпер мы маем найбольшыя клопаты, каб не дапусьціць іх захопліваць тэрыторыі іншых народаў ды накідаць гэтым народам такую самую тыранію, пад якой яны самі цярпелі стагодзьдзямі".

Але вартасьць гэтых місіяў была невялікая. На чале іх стаялі людзі, якія ня мелі паняцьця аб народах царскай імперыі, ведалі толькі Палякаў і іх падтрымоўвалі. Так у чарговай місіі Нуленс і Лерд Говард занялі адразу прапольскае становішча. Яны выказаліся за перадачу Польшчы усіх беларускіх зямель Віленшчыны й Горадзеншчыны, за вынятам Сьвянцяншчыны, завужваючы інтарэсы жамойцкай дзяржавы да этнаграфічнай Жамойці, аддаючы ёй Сьвянцяншчыну за жамойцкі павет Марыямпаля. Гэта была палітыка Пілсудзкага, які не хацеў забіраць Жамойці, а толькі беларускія землі.

Пілсудзкі гэтак хваліўся аб прапольскасьці місіі ў лісьце да Лявона Васілеўскага:

"Цяпер мне ўдалося адчыніць дзьверы для палітыкі адносна Беларусі й Літвы. У часе быцьця тут (у Варшаве) прадстаўнікоў Антанты я толькі наклаў у вушы прадстаўніку Англіі аб справах літоўскіх, што калі ён будзе мець уплыў на гэтыя справы, дык думаю, што гэта будзе мець уплыў для нас карысны ды нясупярэчны нашай думцы вызваленьня нашых крэсаў ад бальшавікоў."

Польскай агрэсіўнай палітыцы спрыяла яшчэ пастанова нямецкага ўраду аб эвакуацыі нямецкіх войск з Горадні й Горадзеншчыны на пачатку красавіка. У гэтай справе Беларускі Міністар Я.Варонка 11 красавіка 1919г., ужо пераехаўшы ў Коўню, гэтак пісаў да Цымэрлі:

"Зь верагодных крыніц мне ведама, што нямецкія войскі пакідаюць у найбліжэйшай будучыні г.Горадню, пасьля чаго польскія легіёны думаюць заняць Горадню і зьнішчыць усю работу беларускіх арганізацыяў. Прашу мяне паведоміць, магчыма найхутчэй, што зроблена для таго, каб нямецкі ўрад пакінуў акупацыйныя войскі яшчэ на некаторы час у г.Горадні і ў паўдзённай частцы Літвы. Трэба прыняць пад увагу, што ў Горадні знаходзяцца беларускія вайсковыя аддзелы, якія могуць супраціўляцца Палякам."

Цымерле даў адказ 14 красавіка 1919, заяўляючы, што эвакуацыя нямецкіх войскаў з Горадні ёсьць на патрабаваньне аліянтаў, бо нямецкі ўрад сам ня будзе супраціўляцца бальшавікам.

## 7. Паход Палякаў на Вільню і эвакуацыя Немцаў

У гэтую трывожную хвіліну ў Горадню была выклікана з Коўні 5-я беларуская рота дзеля ўзмацненьня гарнізону. У справе ее езьдзіў у Коўню ппалк. Дзямідаў. Тым часам Пілсудзкі выслаў у Горадню ген. Фалевіча на каманданта крэпасьці. Хоць нямецкія акупацыйныя часткі яшчэ асталіся ў горадзе, але яны не супрацьстаўляліся, бо былі занятыя эвакуацыяй. Антонаў у сваіх успамінах піша: "Немцы да выхаду з Горадні даўно ужо рыхтаваліся: забіралі і вывозілі ў Гэрманію усё, што пападалася ім пад рукі і мела якую колечы цэннасьць, рвалі фарты крэпасьці, вывозілі па частках войска й жыхароў, якія хацелі трымацца далей ад новых заваявальнікаў. Рыхтаваліся да ад'езду усе ўрадоўцы Беларускага Міністэрства і многія беларускія дзеячы, бо кожны зь іх ясна ўяўляў, чым падзякуюць ім паны-акупанты за іхную працу."

15 красавіка 1919г. у Горадню ўвайшло польскае войска ў сваім паходзе на Вільню. Згодна з умовай Палякаў зь Немцамі, польскае войска ладавалася на чыгунцы й накіроўвалася ў кірунку Вільні. На вуліцах было поўна жаўнераў, сям-там яны турбавалі Жыдоў. Парадак агульны ў горадзе трымала беларускае войска.

Таго ж самага дня (15 красавіка) Беларускі Міністар Язэп Варонка зьвярнуўся з нотай да мяшанай аліянцкай місіі ў Коўні пад старшынствам франц. палк. Рэбуля, прадстаўляючы небясьпеку ў Горадні. Такім чынам 16 красавіка 1919 названая аліянцкая місія з прадстаўнікамі з жамойцкага ўраду была ўжо ў Горадні. Тут палк. Езавітаў перадаў ёй мамарыял аб польскіх злачынствах. Палк. Рэбуль сказаў не перашкаджаць Палякам у іхным руху на ўсход, а для далейшых перамоваў місія, да якой далучыўся і Езавітаў, выехала ў Варшаву.

19 красавіка 1919г. Вільня была ўжо вызвалена Пілсудзкім ад бальшавікоў. Там жа ён выдаў ведамую адозву да насельніцтва, маскуючыся:

"Польскія войскі, якія я прывёў сюды дзеля адхіленьня панаваньня гвалту і насільля, дзеля скасаваньня улады, накіненай насельніцтву - гэтае войска нясе вам усім вольнасьць і свабоду. Хачу вам даць магчымасьць разьвязкі нутраных, нацыянальных і рэлігійных спраў так, як самі будзеце хацець без ніякага гвалту ці ціску з боку Польшчы."

Запраўды твар Пілсудзкага добра відаць у ягоным выказваньні да Падарэўскага, каторага тады пасылаў у Парыж. Пілсудзкі яму казаў, што трэба сілай тварыць факты, каб пасьля іх праўна апраўдаць. Падарэўскі яму прапанаваў прынцыпы амэрыканскай фэдэрацыі, Пілсудзкі станоўча адкідаў фэдэрацыю. "Прынцыпы фэдэрацыі, - казаў ён, - нельга праводзіць на гэтых землях (г.зн. беларускіх), бо мы прыходзім із зброяй, што пярэчыць прынцыпам фэдэрацыі. Дый няма тут тых, хто хацеў-бы гэткай фэдэрацыі."

У Горадні, пакуль што, Палякі не чапалі беларускіх уладаў і войска. Мала таго, фармальна ўладу ў горадзе трымалі Беларусы. 18 красавіка 1919 за подпісам палк. Усьпенскага была расклеена адозва да насельніцтва, якая заклікала да парадку й супакою. Урад БНР і многія беларускія дзеячы крыху раней (14 красавіка) выехалі ў Коўню, Езавітаў быў у Варшаве (із Смолічам) дык у Горадні найвышэйшай уладай быў камандуючы беларускім палкам палк.Усьпенскі, намесьнік Езавітава. Ён верыў, што удасца наладзіць супрацоўніцтва з Палякамі. Ён пачаў перамовы з адумысным прадстаўніком Пілсудзкага палк. Нянеўскім. 22 красавіка было ўзгоднена зь ім, што беларускаму войску пакідаецца свабода дзеяньня ці аставацца на месцы, ці выязджаць у іншае месца, на загад Коуні, зь якой тэлефонная лінія і сувязь ня будуць нарушаны. Гэта дагаворанасьць была перададзеная тэлефанічна ў Коуню, адкуль прыйшла таго ж дня фанаграма за подпісам ваеннага міністра Мэркіса, каб беларускія аддзелы асталіся на месцы, і што можна з Палякамі на пададзеных умовах падпісаць пагадненьне.

## 8. Умова з палякамі.

Умова з Палякамі была падпісаная наступнага дня, 23 красавіка 1919. Зьмест яе наступны:

Дзеля наладжваньня прыяцельскіх суадносінаў між прадстаўнікамі Беларусамі палк. Усьпенскім, палк. Равіч-Шчэрбай, палк. Юшкевічам з аднаго боку, а прадстаўніком польскага ваеннага штабу падпалкоўнікам Нянеўскім з другога, пастанаўляецца наступнае:

1. Першы Беларускі Полк астаецца як самастойная адзінка, што ўваходзіць у склад жамойцкіх збройных сілаў. Яму гарантуецца свабодны выбар ці аставацца ў Горадні, ці выехаць у іншае месца незалежна ад Палякаў.

2. Польскае ваеннае камандаваньне гарантуе поўнае няўмешваньне ў нутраныя справы Палку, як у ягоную арганізацыю, узбраеньне, вышкаленьне, а таксама свабоднае ўтрымованьне тэлефоннай лучнасьці Горадня-Коўня з жамойцкімі ўладамі.

3. Горадзенскі Полк падпарадкоўваецца польскаму каманданту крэпасьці Горадня, што не зьмяняе пастановаў п.2 дагавору. Ён ня можа быць выкарыстаны інакш, як толькі да супрацьбальшавіцкай абароны крэпасьці..

4. Горадзенскі Беларускі Полк можа адступіць ад гэтай умовы, калі з тэхнічных меркаваньняў ці з палітычных перашкодаў наступіць папсаваньне польска-беларускіх суадносінаў.

5. Беларуская старана згадзілася падпісаць умову ў польскай мове.

Падпісалі: палк.Усьпенскі, кам.Палка, палк. Равіч-Шчэрба, стар. шт. палк. Юшкевіч, ст. гасп. част. ппалк.Нянеўскі, прад. поль. в. штабу.

Горадня 1919, IV, 23.

Дагавор гэты быў падпісаны а 3 гадзіне папаўдні, а ўжо а 6 гадз. прышла тэлеграма з Бэрліну за пасярэдніцтвам Коўні, што нямецкая эвакуацыя з Горадні спыняецца, і каб не падпісываць умовы з Палякамі. Аднак тры гадзіны ўжо было запозна.

Устрыманьне нямецкай эвакуацыі з Горадні на некаторы час супакоіла нэрвовую сытуацыю ў Горадні. 24 сакавіка вярнуўся з Варшавы палк. Езавітаў, які зь месца супрацьставіўся падпісанай умове з Палякамі і хацеў эвакуаваць Беларускі Полк з Горадні. Таксама і Немцы вызначылі на 25 красавіка тэрмін на эвакуацыю Палка. Былі прадстаўленыя дзеля гэтага вагоны Горадні. Аднак 25 кр. былі атрыманы з ваеннага міністэрства Коўні і ад нямецкага ваеннага міністра Носкі тэлеграмы, у якіх гаварылася, што паколькі нямецкая эвакуацыя з Горадні стрымана, мае аставацца й Беларускі Полк. Тады палк. Езавітаў перадаў камандаваньне Палком палкоўніку Антонаву, а сам выехаў у Коўню.

## 9. Эвакуацыя немцаў і напад палякаў

На самай справе Нямецкая эвакуацыя ня была прадоўжаная. Ужо 26 красавіка Немцы перадалі ўладу ў Горадні Беларускаму Палку, а самі грузіліся да выезду. Антонаў піша, "у апошні час перад адыходам Немцы асабліва спагадна адносіліся да Беларусаў: бывалі на беларускіх вечарынах, не праводзілі рэквізыцыяў ды перасталі трымаць сябе заваявальнікамі". Гэта толькі асьмельвала Палякаў. Ужо 27 красавіка на вуліцах Горадні зьявіліся польскія легіянеры. У ваколіцах Горадні былі й бальшавікі.

28 красавіка 1919 г. а першай гадзіне ноччу польскія войскі напалі на Горадзенскі конны эскадрон, яго раззброілі, арыштоўваючы ахвіцэраў і жаўнераў ды памяшчаючы іх у Станіслаўоўскім двары каля Горадні. Пры гэтым была забраная каса эскадрону ў ротм. Глінскага - 2.900 марак.

29 красавіка 1919 г. апошнія нямецкія аддзелы выехалі з Горадні. У полудзень увайшлі ў Горадню польскія войскі. Над горадам узьвіўся польскі сьцяг. Палянафільская элемэнты на сваіх дамох павывешвалі польскія сьцяжкі, арлы. Жыды адразу павярнулі ў бок новых акупантаў. Ніякіх непарадкаў у горадзе ня было..

**(Працяг будзе).**

**(Пачатак у №№ 4-7).**

# АПОШНЯЯ СТАРОНКА

## ВЕСТКІ З ЛЕТУВЫ

* З часу ўвядзеньня ў Летуве нацыянальнай валюты выяўлена звыш тысячы падробленых банкнот: 15 купюр вартасьцю 100 літаў, 650 - 20 літаў, 390 - 50 літаў і каля 50 - вартасьцю 10 літаў. Спачатку іх выраблялі з дапамогай дасканалай памнажальна-капіравальнай тэхнікі. А ўсе адшуканыя за апошні час фальшывыя літы зроблены ў друкарнях. Знойдзена таксама шмат падробленых манет: звыш 400 - пяцілітавыя, каля 30 - двухлітавыя й 27 - адналітавыя.

Летась зафіксавана каля 300 купюр падробленых даляраў ЗША. А ў студзені бягучага года ў Вільні паліцыяй затрыманы чалавек з мільёнам фальшывых расейскіх рублёў.

* Найбольш дарагія кватэры ў Летуве - у старой частцы Вільні. Квадратны мэтар ацэньваецца тут у 350-450 даляраў ЗША. Жыхары рэспублікі ўсё часьцей аддаюць перавагу малым кватэрам. Кошт аднапакаёвак зараз вагаецца ад 4 да 8 тысяч даляраў.

Зьнізіўся таксама попыт на дамы. За двухпавярховы асабняк сярэдняй велічыні ў прыгарадзе Вільні трэба заплаціць 40-50 тысяч даляраў. Кошт жыльля залежыць ад становішча на рынку працы ў пэўным месцы. Самыя высокія цэны сярод раёнаў у Шырвінтае, бо немцы зьбіраюцца будаваць тут вялікае прадпрыемства.

* Пры Міністэрстве аховы здароўя створаны новы дэпартамэнт, абавязак якога - клапаціцца пра здароўе здаровых людзей. Яго супрацоўнікі будуць займацца ў асноўным асьветніцкай дзейнасьцю, бо на 40-45 працэнтаў здароўе чалавека залежыць ад вобразу жыцьця.

* Кожны трэці з жыхароў Летувы, цяпер ужо нябожчыкаў, мог бы жыць, бо яны памерлі ў выніку няшчасных выпадкаў, станавіліся ахвярамі забойцаў ці былі самазабойцамі. Летась толькі шляхам самагубства разьвіталіся з жыцьцём каля 1500 чалавек, а колькасьць тых, хто спрабаваў гэта зьдзейсьніць - у 10 разоў болей. За ўсю гісторыю краіны гэта самыя высокія паказчыкі.

## ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

### ДАВЯДЗЕЦЦА ПЛАЦІЦЬ ПА ПРАЦЭНТАХ

Зараз зьнешні доўг Польшчы складае 48 мільярдаў злотых. Сёлета неабходна заплаціць толькі па працэнтах, але нават у гэтым выпадку дзяржбюджэт павінен выдзяліць 30 трыльёнаў злотых - у 2,5 раза болей, чым летась. Найбольшую запазычанасьць (28,9 мільярда даляраў) Польшча мае перад Парыжскім клюбам (заходнія краіны - крэдыторы). Затым ідзе Лонданскі клюб (камэрцыйныя банкі) - 12,7 мільярда даляраў.

### ПОЛЬСКІ БЮДЖЭТ-94

Законапраэктам аб бюджэце на бягучы год, які ўрад Польшчы прапанаваў на разгляд парлямэнту, прадугледжаны тры прыярытэтных напрамкі: падтрымка інвэстыцыі, заахвочваньне экспарту, а таксама абарона найбольш бедных груп насельніцтва й супрацьдзеяньне тэндэнцыі скарачэньня выдаткаў на бюджэтную сфэру. Згодна яму сярэдні заробак складзе 5 мільёнаў 80 злотых (на 2 працэнты больш, чым летась). У прамысловасьці яна будзе 5 мільёнаў 230 тысяч злотых, а на прадпрыемствах і ва ўстановах, якія фінансуюцца з бюджэту - 4 мільёны 775 тысяч злотых. 26 трыльёнаў злотых пойдзе на павышэньне заработнай платы ў бюджэтнай сфэры. Сярэдні курс амэрыканскага даляра да злотага складзе 23 тысячы 614 злотых, а ў сьнежні дасягне 26 тысяч 300 злотых. Са сьнежня 1993 года па сьнежань бягучага даляр падаражае на 24 працэнты. Колькасьць безпрацоўных павялічыцца на 190 тысяч і складзе 3 мільёны 50 тысяч чалавек. Захаваюцца існуючыя прынцыпы дацыраваньня. Яны будуць датычыцца чыгуначнага й аўтамабільнага транспарту, школьных падручнікаў і рэструктурызацыі вугальных шахт. Ліквідуецца даплата на паліва, якое набывалі сяляне. Прыбыткі ад прыватызацыі павялічацца на 4,8 трыльёна злотых і складуць 12,3 трыльёна. Узрасьце колькасьць падаткаплацельшчыкаў. Падатак на дадатковы кошт будуць плаціць фірмы, гадавы прыбытак якіх перавышае 1,2 мільярда злотых. Захаваецца 7-працэнтная стаўка для энэрганосьбітаў і ўсіх паслуг, зьвязаных з будаўніцтвам жыльля. Падаходны падатак ня зьменіцца й складзе 40 працэнтаў. Да канца сакавіка захаваецца падатак на звышнарматыўны заробак. Потым будуць распрацаваныя іншыя формы кантролю за зарплатай. Амаль у тры разы павялічацца асігнаваньні на актывізацыю экспарта.

### ЗША ПАКУЛЬ ЛІДАР

Амэрыканцы ўклалі ў эканоміку Польшчы да сьнежня мінулага года каля міліярда даляраў, што складае больш за трэць усіх інвэстыцый, ідуць размовы і аб другім мільярдзе. А італьянцы выдзяляць каля 2 мільярдаў. Пакуль што апошніх прадстаўляюць толькі тры фірмы ("Фіат", "Фортрэйд" і "Лукіні"), а ЗША - некалькі дзесяткаў.

Затым ідуць галандцы (233 мільёны даляраў), немцы (212 мільёнаў), аўстрыйцы (195 мільёнаў) і французы (177 мільёнаў).

Меньш за ўсіх інвэстыравалі ЮАР і былая Югаславія - па 3 мільёны даляраў, Люксембург і Грэцыя - па 2 мільёны.

85 працэнтаў замежнага капіталу накіравана ў шэсьць галін прамысловасьці: харчовую, цэлюлозна-папяровую, хімічную, электратэхнічную і электронную, дрэваапрацоўваючую і швэйную прамысловасьці.

**(ПП)**



### ЗЬЯДНАЛА РОДНАЯ ПЕСЬНЯ

Больш за год існуе пры Гарадзенскім доме культуры вакальна-інструмэнтальны ансамбль беларускай народнай песьні "Гасьцінец". У "Гасьцінцы" сабраліся людзі самых розных прафэсый, але іх аб'ядноўвае любоў да роднага музычнага слова, да вытанчанай гамы беларускай народнай песьні. Завадатарамі й складальнікамі канцэртных праграм калектыву зьяўляюцца М.Саковіч, Т.Чуган і А.Карповіч.

**Г.У.**

**Фатаграфаваў А.КАРПОВІЧ.**

**Запрашаем на сьвяточную вечарыну, прысьвечаную 76-ым угодкам Беларускай Народнай Рэспублікі, якая адбудзецца ў тэатры лялек 25 сакавіка. Пачатак у 18.30 .**

### АБ'ЯВА

Рада гісторыка-культурнага клюба "Паходня" паведамляе, што пасяджэньні клюба адбываюцца кожны чацьвер а 19-ай гадзіне ў памяшканьні гарадзкога Дома культуры. Запрашаем усіх жадаючых.

Рада "Паходні".



## Гарадзенская вабласная Рада БНФ заклікае

У гэты складаны й цяжкі для нашай Бацькаўшчыны, Беларусі час, калі ўладныя намэнклятурныя структуры раскрадаюць і распрадаюць здабытак нашага народу, выступаюць супраць беларускай незалежнасьці, мовы і культуры, усім, каму не абыякавы лёс нашай дзяржавы, трэба аб'яднацца ў шырокім фроньце, пад штандар Беларускага Народнага Фронта «Адраджэньне», уступайце ў БНФ!

**Пішыце на адрас: 230025, г. Горадня, а/с 139. Тэлефануйце штодзень з 9.00 да 17.00 па тэлефоне 45-41-83.**

**Старшыня Рады БНФ «Адраджэньне».**

**Спадар М. БАЎСЮК.**



### РЭКАМЭНДАВАНЫ ДА СЭРЫЙНАЙ ВЫТВОРЧАСЬЦІ

Берасьцейскім акцыянэрным таварыствам "экспрэс-сэрвіс" асвоена вытворчасьць складанай мэдыцынскай тэхнікі - прыстасаваньня для біялягічнай ачысткі крыві, прызначанага для аўтаматычнага ўвядзеньня лекаў пацыенту з зададзенай урачом хуткасьцю. Гэта навінка прайшла клінічныя выпрабаваньні ў бальніцах Менску й рэкамэндавана для практычнага прымяненьня "Белмэдтэхнікай".

### АД БЯРЭСЬЦЯ ДА КРАСНОГА

Хутка распачнецца рэканструкцыя аўтамагістралі "Берасьце-Масква". Аб гэтым можна меркаваць з пастановы Саўміна Беларусі, зацьвердзіўшага інвэстыцыйны праект і выдзяляючага на гэтыя мэты 109 мільёнаў экю (на сёньняшні дзень курс аднаго экю па вэрсіі Нацыянальнага банку РБ складае больш 7,5 тысячы рублёў). Гэты крэдыт прадстаўлены Эўрапэйскім банкам рэканструкцыі й разьвіцьця. Асноўная яго частка (каля 80 мільёнаў экю) павінна быць асвоена ў бліжэйшыя тры гады.

Цікава й тое, што валюта выдаткоўваецца на абсталяваньне хуткаснага аўтабана ад Берасьця да мяжы з Расеяй. Далей затраты давядзецца весьці нашаму магутнаму ўсходняму суседу.

### УРАДЖАЙ З ПАМЕЖЖА

Берасьцейскія памежнікі падлічваюць вернутае з іх дапамогай дзяржаве дабро за мінулы год. У "зайчыкавым" эквіваленце сума набегла вялікая - каля 45 мільярдаў рублёў. І гэта толькі на памежным пераходзе "Брэст". "Ураджай", сабраны ў гэтых мясьцінах за мінулы год, аналагаў ня мае. Гэта валюта, унікальныя іконы, каштоўныя мэталы і іншае.

Памежнікаў і мытнікаў хвалюе той факт, што Берасьце ўсё часьцей становіцца перавалачным пунктам наркатычных рэчываў і ўрана з Эўропы ў краіны Усходу.

**Пётр ЖЭБРАК.**

### НА 13-ЫМ КІЛЯМЭТРЫ МЕНСКАЙ ШАШЫ, МАГЧЫМА, БУДЗЕ МАТЭЛЬ

Днямі адзін гарадзенскі камэрсант зьвярнуўся да гарадзенскага райсавету з запытам аб вяртаньні яму нацыяналізаванай пасьля вайны спадчыны - хутара памерам 15 гэктараў на 13-ым кілямэтры Менскай шашы.

У прыватнай гутарцы гэты ж камэрсант згадаў карэспандэнту так:"Я жадаю вярнуць сваю бацькоўскую спадчыну з мэтай стварыць бліз Горадні матэль, дзе хачу разьмясьціць гатэль з рэстаранам, барам, басэйнам і аўтастаянкай.

Ведаю, што мэту зьдзейсьніць будзе складана. Але ад сваёй задумы не адступлюся."

**Г.У.**

**«ПАГОНЯ»**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд «Бацькаўшчына»**

Адрас рэдакцыі: 230023, г. Горадня, вул. Дамініканская, 1.
Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.
Газэта выдаецца штотыдзень па пятніцах.
Індэкс 63124. Ліцэнзія № 465.
Фотанабор, афсэтны друк.
Гарадзенская вабласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г. Горадня, вул. Паліграфістаў, 4.

Зак. 955
— 3934 экз.